*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◆ № 5(165) ◆ 2 лютага 1994 г. ◆ Кошт — 20 рублёў.

## ПОСТУП ТЫДНЯ

*У МІНУЛУЮ ПЯТНІЦУ НА СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ СТАРШЫНЁЙ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА АБРАНЫ МЕЧЫСЛАЎ ІВАНАВІЧ ГРЫБ. Ён быў адзіным кандыдатам на гэтую высокую пасаду, які ў адрозненне ад сваіх канкурэнтаў, перад галасаваннем выступаў з трыбуны па-беларуску. Што гэта — перадвыбарная гульня ці сапраўдная беларускасць новага Старшыні Вярхоўнага Савета, пакажа час.*

◆◆◆

НА ПЫТАННЕ КАРЭСПАНДЭНТА БЕЛІНФАРМА, ці не адаб'ецца адкліканне Станіслава Шушкевіча з пасады спікера беларускага парламента на падпісанні дакументаў аб аб'яднанні грашовых сістэм Беларусі і Расіі, Старшыня Савета Міністраў Вячаслаў Кебіч адказаў адным словам: «Не».

◆◆◆

*МІНІСТЭРСТВА ІНФАРМАЦЫІ ПА УЗГАДНЕННІ з Саюзамі журналістаў і пісьменнікаў рэспублікі, Беларускім фондам славянскай пісьменнасці і славянскай культуры накіравала ў Савет Міністраў Беларусі прапанову аб зацвярджэнні 6 жніўня Нацыянальным днём пісьменнасці і друку. У гэты дзень у 1517 годзе Ф. Скарына аддрукаваў першую кнігу на старaславянскай мове.*

◆◆◆

З ПЕРШАГА ЛЮТАГА Ў ДАЎГАЎПІЛСЕ (ЛАТВІЯ) ПАЧАЛО ПРАЦАВАЦЬ ГЕНЕРАЛЬНАЕ КОНСУЛЬСТВА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ.

◆◆◆

*БЕЛАРУСЬ ЗНАХОДЗІЦЦА Ў ШЭРАГУ ВЯДУЧЫХ ЕЎРАПЕЙСКІХ ДЗЯРЖАЎ ПА КОЛЬКАСЦІ БАНКАЎ НА ДУШУ НАСЕЛЬНІЦТВА. Намеснік старшыні праўлення Нацыянальнага банка Беларусі Уладзімір Сідараў, прыводзячы такую статыстыку, дабавіў, што ў гэтым годзе да ўжо зарэгістраваных фінансавых устаноў прыбавіцца яшчэ як мінімум пяць. Але штосьці ў нас ад колькасці банкаў не багацее народ?*

◆◆◆

АДБЫЎСЯ ЧАРГОВЫ ПЯТЫ З'ЕЗД ФЕРМЕРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ. Са справаздачай выступіў старшыня Беларускага саюза фермераў К. М. Ярмоленка. На сённяшні дзень у краіне налічваецца каля 2650 фермерскіх гаспадарак з агульнай плошчай 54000 гектараў зямлі. З'езд прыняў рэзалюцыю, якая вызначае шляхі далейшага развіцця новай формы гаспадарання. Сваім друкаваным органам фермеры зацвердзілі штотыднёвік «Новая зямля».

◆◆◆

*НА ЧАРГОВЫМ ПАСЯДЖЭННІ КАМІСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА ПА ЭКАНАМІЧНАЙ РЭФОРМЕ, ДАСЯГНЕННІ ЭКАНАМІЧНАЙ САМАСТОЙНАСЦІ І СУВЕРЭНІТЭТУ РЭСПУБЛІКІ ЗАСЛУХАНА ІНФАРМАЦЫЯ кіраўніка Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па кіраванні дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі В. Мацюшэўскага аб выкананні Закона аб імянных прыватызацыйных чэках. Мяркуецца, што першы чэк мы атрымаем 1 ліпеня.*

---

**Падзеі ў Вярхоўным Савеце ўзрушылі ўсё наша грамадства і шырока каменціруюцца ў краінах СНД. Уплывовыя цэнтральныя газеты Расіі вызваленне Станіслава Шушкевіча з пасады старшыні парламента расцэньваюць як аслабленне ў кіраўніцтве Беларусі прыхільнікаў палітыкі Прэзідэнта Ельцына і рэванш камуністычных сіл.**

**«Палітычная драма Станіслава Шушкевіча,— лічыць дэпутат Віктар Ганчар,— заключалася ў тым, што ён ні разу не адстаяў да канца сваю пазіцыю». Ён хацеў быць «нічыім», адзначаюць парламенцкія журналісты, адрокся нават ад тых, хто яго падтрымліваў, і ў выніку як палітык застаўся адзін...**

**Скончыліся і спадзяванні той вялікай часткі беларускага насельніцтва, якая спадзявалася, што ў ліхую гадзіну іх выручыць Шушкевіч. Не будзем забываць: у Станіслава Станіслававіча згодна сацыялагічных апытанняў быў нязменна самы высокі рэйтынг сярод беларускіх палітыкаў. Пакуль што гэтае месца не зможа заняць ніхто. А ўзброенай сілай з народам паразумення не наладзіць.**

◆ ◆

*Але!*

## За двух літоўскіх камуністаў — двух беларускіх міністраў «здалі»

Ну і ляманту нарабіў у Вярхоўным Савеце вываз з Беларусі на радзіму двух босаў кампартыі Літвы. Праўда, туды ім вельмі не хацелася, бо яны абвінавачваюцца ў здрадзе інтарэсам уласнага народа і спробе дзяржаўнага перавароту ўзброеным шляхам, што 13 студзеня 1991 года прывяло да чалавечых ахвяр сярод мірнага насельніцтва. Здавалася б, нашых сілавых міністраў трэба хутчэй крытыкаваць за тое, што доўга марудзілі з высылкай на радзіму нязваных і непажаданых (ва ўсякім разе для беларускага народа) гасцей, звязаных, магчыма, з падпольнымі бальшавіцкімі ўзброенымі баевікамі з Балтыі. Няхай бы самі літоўцы ў судовым працэсе вырашылі, хто там у чым вінаваты. Не, большасць нашага Вярхоўнага Савета адкрыта і на дзіва энергічна выказала спачуванне і падтрымку літоўскім камуністам-путчыстам і ўсчыніла за зачыненымі ад народа (які прадстаўляюць журналісты, у тым ліку тэлевізійныя) дзвярыма «разнос» міністру ўнутраных спраў Уладзіміру Ягораву і старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі Эдуарду Шыркоўскаму (якія, дарэчы, лічацца вопытнымі прафесіяналамі і людзьмі памяркоўнымі). Іх вырашана «здаць». І «здалі». Магчыма, гэта пойдзе на карысць камунабальшавіцкай інтэрсалідарнасці. А беларусам? Ці не паспрыяе гэта росту беспакаранай злачыннасці ў дзяржаве?

Ул. АС.

---

*РЭХА*

## РУСКІЯ: У ПАСТЦЫ ЎЛАСНАЙ ІМПЕРСКАСЦІ

### (з нагоды сустрэчы з публікай у зале «Астанкіна» мітрапаліта Смаленскага і Калінінградскага РПЦ Кірылы)

Сустрэча была прысвечана аднаму з самых вялікіх святаў хрысціянства — Дню нараджэння Ісуса Хрыста. Мітрапаліт Смаленскі і Калінінградскі Рускай праваслаўнай царквы Кірыл прыгожа і пераканаўча гаварыў пра вялікі дар Божы чалавецтву, заклікаў да мірнага суіснавання вернікаў усіх цэркваў і нагадаў выдатныя словы апостала Паўла аб свабодзе, што яна толькі адна ёсць — свабода ад граха.

Прысутныя, звяртаючыся да мітрапаліта, казалі не «святы айцец» ці неяк падобна, а толькі — «уладыка». Будзем лічыць — з-за валодання ім больш за простых клірыкаў таямніцай Божай ісціны, а не высокага сану, як некалі б сказалі, князя Рускай праваслаўнай царквы. Калі ж параўноўваць ягоны кіраўнічы ранг, скажам, з наменклатурай нядаўняга ЦК КПСС, гэта будзе накшталт члена палітбюро і сакратара па ідэалогіі. Параўнанні адносныя, але ўплыў уладыкі на палітыку Маскоўскай праваслаўнай царквы, безумоўна, вельмі значны. Зыходзячы з гэтага, а не толькі таму што ўладыка Кірыл прадэманстраваў грунтоўную і тэалагічную, а і свецкую адукаванасць і дасведчанасць, варта вельмі ўважліва паставіцца да ягоных выказванняў. Асабліва беларусам, якія па прывітай звычцы ўсё яшчэ гатовы памкнуць за «товарищами», што цягнуць іх не толькі ў эканамічную «рублёвую зону новага тыпу», а глыбей і назад — у канфедэрацыю ажно да поўнага зліцця з Расіяй.

Адзначым некалькі найбольш істотных для нас момантаў з выступлення мітрапаліта РПЦ Кірыла. Ён практычна пацвердзіў тое, што даўно многім назіральнікам стала зразумела: адчуўшы рашучую падтрымку ўрадавых колаў Расіі, Маскоўская праваслаўная царква з імпэтам бярэ на сябе ролю абаронцы дзяржавы. Зразумела, Расійскай. Знакамітаму пастулату Евангелля, што ў хрысціянстве людзі не падзяляюцца на нацыянальнасці, давядзецца пачакаць да лепшых часоў: хоць уладыка Кірыл і нагадаў прысутным, што ў Расіі, як больш нідзе, усе народы суіснуюць разам без прымусу і толькі па ўласнай ахвоце, ён выму-

*Працяг на с. 2*

---

*У суседзяў*

## Бацькам салдат раяць не «ўздымаць шуму», а з'ездзіць да сваіх чадаў у Закаўказзе з канцэртам

У расійскай прэсе паведамляецца пра чарговыя пратэсты бацькоў салдат, якіх без асабістай згоды патаемна генералы накіроўваюць у «гарачыя кропкі» — Таджыкістан і Закаўказзе. На запытанне групы бацькоў, чаму іх сыноў паслалі служыць некуды за межы Расіі, намеснік начальніка штаба пагранвойск, сказаў, быццам бы хлопцы самі выказаліся «добраахвотна» туды паехаць. А функцыянер з Савета бацькоў расійскіх ваеннаслужачых у Маскве парэкамендавала «не ўздымаць шуму, а лепей з'ездзіць да сыноў у Арменію з канцэртам».

Нашы вышэйшыя кіраўнікі падпісалі пагадненне аб вайсковым саюзе. З якімі «канцэртамі» і куды ў выніку давядзецца яшчэ ездзіць бацькам беларускіх хлопцаў, тым болей што, па вайсковаму статуту, салдату трэба спачатку выканаць загад камандзіра, а потым ужо спрабаваць скардзіцца ды і то па асобных правілах.

Ул. АС.

*Рэха*

# Рускія ў пастцы ўласнай імперскасці

*Працяг. Пачатак на с. 1.*

шаны быў сказаць і наступнае: рускія ў Расіі ў якасці этнасу ў небяспецы. І уладыка Кірыл выказаўся накont гэтага, нават не хаваючы сэнсу за звычайнай у падобных выпадках дыпламатычнай рыторыкай: трэба ўсімі сродкамі спыніць упадак нацыянальнага самапачування сярод рускіх, бо ад гэтага залежыць моц дзяржавы. Адрадзіць нацыянальную годнасць! — дадаткова палічыў патрэбным падкрэсліць уладыка Кірыл пад апладысменты слухачоў, сярод якіх было нямала прадстаўнікоў культурнай эліты Масквы.

Спыніць і адрадзіць... Нешта падобнае мы ўжо некалі чулі. Іншая справа, як гэта зрабіць. Мне ўжо даводзілася пісаць пра тое, што ў самой этнаназве «рускія» закладзена імперскасць, і пэўны час гэта спрацоўвала, асабліва дзякуючы намаганням царквы, збіраючы ў адзін народ асколкі розных этнасаў. Але ўрэшце адбылася крышталізацыя, і нездарма бальшавікам для кансалідацыі камуністычнай імперыі давялося ўвесці новы этнатэрмін — «савецкі народ». І ён бы прыжыўся, магчыма, каб, па-першае, не давялося ў крытычныя для дзяржавы моманты вяртацца за падтрымкай да ранейшага стрыжнявога імперскага этнасу, ну, а па-другое, каб ад бальшавіцкіх эксперыментаў не развалілася канчаткова народная гаспадарка, эканоміка. Збіраць цяпер Расію зноў пад рускім сцягам? Маючы такія іншародныя кампаненты, як Татарстан, Башкарстан, Чачня і шэраг меншых, але з акрэсленымі нацыянальнымі амбіцыямі? Словам, Расію яшчэ чакаюць складаныя, мякка кажучы, часы не толькі з-за хібаў эканамічнай сістэмы, і нават тым з вышэйшых кіраўнікоў Беларусі, хто марыць за гандаль нацыянальнымі інтарэсамі даверлівых «бульбашоў» атрымаць дачу пад Масквой і царскае спецабслугоўванне, варта падумаць наконт наступстваў хаця б для ўласнай сям'і — у Маскве перапоўнены не толькі могілкі каля Крамля.

А пакуль Маскоўская праваслаўная царква пачала рашучыя дзеянні па ўмацаванню расійскай дзяржаўнасці, міжволі засяроджваючыся на яе «рускасці». У рэчышчы гэтага трэба разглядаць і пераход царкоўных службаў на сучасную расійскую мову з захаваннем толькі невялічкай часткі старажытнаславянскіх лексічных форм. У адказ на абурэнне аднаго са слухачоў уладыка Кірыл дасціпна гаварыў пра неабходнасць эвалюцыі абнаўлення царквы, каб мацаваць яе сувязь з народам. Мітрапаліт Маскоўскай РПЦ не пакінуў такім чынам сумненняў, што ягоная царква мае пэўныя нацыянальныя прыярытэты. У гэтым няма нічога незвычайнага, а зноў жа — прыкмета эвалюцыі хрысціянскай царквы ўвогуле.

Адно засмучае: адказваючы на запытанне нейкага ультра-нацыяналіста, чаму слаба бароняць рускіх у Прыбалтыцы, уладыка тэмперамента заявіў: Расія — вялікая дзяржава і знойдзе спосаб абараніць рускіх, дзе б яны ні жылі. Нават калі б уладыка ўжыў тут тэрмін «расійскіх грамадзян», то ўсёроўна ўзяў бы на сябе функцыі «крутога» міністра замежных спраў, а не духоўнага пастыра, місія якога дзейнічаць метадамі ўшчування.

Прагучала ж практычна заахвочванне «абараняць» некага, хто адносіць сябе да пэўнай нацыянальнасці, сілай супердзяржавы. Калі дадаць да гэтага, што ўладыка ахвотна пагадзіўся з думкай кінарэжысёра Мікіты Міхалкова пра выхаванне царквой пачуцця патрыятызму ў войску, і што падобнае ўжо не саромеюцца распаўсюджваць праз сродкі тэлевізіі на ўсю Садружнасць Незалежных Дзяржаў, можна зразумець, чаму ўсё больш расійскіх суседзяў насцярожана, а то і варожа ставяцца да Рускай праваслаўнай царквы. Гэта, дарэчы, пацвердзіла і скарга мітрапаліту Кірылу высокага і як быццам незалежнага ад Масквы іерарха Украінскай праваслаўнай царквы на «ганенні» з боку нейкай часткі ўласных суграмадзян. На гэты раз уладыка Кірыл толькі ўшчуваў неразумных, якія нядобра ставяцца да зусім «аўтаномнай», «самастойнай» брацкай царквы толькі за тое, што моліцца за патрыярха Маскоўскага і прапагандуе рускую мову, але пра сілу пэўнай дзяржавы ён ужо сказаў раней і слухачам заставалася толькі ўявіць сабе ў якасці анёлаў-міратворцаў лагодныя постаці расійскіх дэсантнікаў.

Эрнэст ЯЛУГІН.

*Жыццё Таварыства*

# Пашпарт павінен быць беларускі

*Менская гарадская рада Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны звярнулася ў Камісію па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь і Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь з прапановай, у якой гаворыцца:*

*«У сувязі з падрыхтоўкай да ўвядзення ў наступным годзе новага беларускага пашпарта Менская гарадская рада ТБМ імя Францішка Скарыны, разгледзеўшы на сваім пасяджэнні 21.12.1993 г. гэта пытанне, вызначыла наступнае:*

*1. Мовамі, на якіх падаюцца ўсе надпісы ў пашпарце, павінны быць толькі беларуская і англійская. Руская мова не павінна ўжывацца ў пашпарце, бо:*

*для таго каб надпісы ў пашпарце былі зразумелыя ў большасці краін свету, дастаткова адной міжнароднай мовы — англійскай,*

*для ўсіх славянскіх краін і краін, дзе ўжываецца кірылічная графіка, надпісы на беларускай мове цалкам зразумелыя,*

*увядзенне надпісаў на трэцяй мове прывядзе да эстэтычнага загрувашчвання пашпарта.*

***2. Да пачатку масавай выдачы пашпартоў неабходна ўнармаваць напісанне беларускіх імёнаў. Аднак неабходна пакінуць і магчымасць напісання імён у царкоўна-кананічнай форме.***

***3. У пашпарце неабходна захаваць графу «нацыянальнасць», якая запаўняецца пры жаданні ўладальніка пашпарта. За гэта выступаюць не толькі прадстаўнікі карэннай нацыі нашай краіны, якія заклапочаны лёсам свайго этнасу, але і прадстаўнікі нацыянальных меншасцей, што занепакоены магчымасцю страты іх нацыянальных асаблівасцей і паскоранай асіміляцыі.***

***4. Мы падтрымліваем прапанову А. Мальдзіса, Г. Цыхуна і В. Рагойшы («Наша слова», № 46, 1993 г.) аб напісанні імёнаў, прозвішчаў і месцаў нараджэння беларускай лацінкай. Беларуская лацінка прыстасавана для перадачы гукаў беларускай мовы і будзе найлепш і больш адэкватна перадаваць аўтэнтычнае гучанне».***

# Ніл ГІЛЕВІЧ: Мы хочам нармальным людскім

На імя народнага паэта, старшыні ТБМ імя Ф. Скарыны, старшыні пастаяннай Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Ніла Гілевіча прыходзяць лісты, у якіх выказваюцца ў яго адрас папрокі і абвінавачванні. Лістоў падобнага зместу шмат, таму народны дэпутат выступіў у «Народнай газеце» № 7 з адказам на іх у артыкуле «Час выпрабавання на годнасць — для ўсіх». У ім, у прыватнасці, гаворыцца: «Толькі народ можа прымусіць і ўрад, і Вярхоўны Савет вырашаць эканамічна-сацыяльныя і іншыя праблемы ў інтарэсах працоўнага чалавека. Помнячы пры гэтым, што ўлада і сёння ў руках тых самых людзей, у каго была і ўчора, і пазаўчора».

Вы пішаце, звяртаецца Ніл Гілевіч да сваіх карэспандэнтаў: «Паглядзіце ў кнігарнях, што купляюць. Эротыка, парнаграфія, прастытуцыя і бандытызм». Так, ваяўнічая пошласць, згаджаецца ён, усё больш выцясняе сур'ёзную, добрую літаратуру, якая ў незалежнай дзяржаве, натуральна, будзе пераважна беларускай. Такія сур'ёзныя выданні (і не толькі кнігі, але і часопісы, і газеты) патрабуюць моцнай дзяржаўнай падтрымкі фінансамі, датацыямі. На вялікі жаль, адносіны да кнігі ў нашых верхніх эшалонах такія ж «душэўныя», як і да беларускай мовы, і да нашай культуры наогул. Не хапае дзяржаўнага разумення, што такое Кніга, што без дзяржаўнага клопату пра Кнігу нас абавязкова напаткае горкая будучыня.

Вы пішаце, зноў цытуе Ніл Гілевіч ліст свайго карэспандэнта: «А што робіцца з беларускай мовай! Гэта ж сапраўды моўны бандытызм!» І далей: «Адбываецца паланізацыя беларускай мовы». Нараканне небеспадстаўнае, толькі занадта моцныя абагульненні зроблены, заўважае Ніл Гілевіч. — Так, у беларускім правапісе за апошнія гады ўтварыўся досыць значны разнабой, а гэта з'ява для літаратурнай мовы, для нацыянальнай культуры вельмі непажаданая. Іменна таму цяпер над удакладненнем правапісу працуе дзяржаўная камісія, якая неўзабаве вынесе свае прапановы на шырокае абмеркаванне. Спадзяюся, што ў выніку будзе зацверджаны правапіс у інтарэсах мовы і яе носьбітаў.

Чытаем ліст далей: «А як ахвотна беларускае радыё прадстаўляе час на выступленні замежным вернікам», «зарубежным авантуры-

# Весткі з Віленшчыны

Ужо становяцца вядомымі забойцы намесніка рэдактара газеты «Рэспубліка» Вітаса Лінгіса, якім прад'яўляюцца абвінавачванні. Гэта Ігар Ахрэмаў, Вячаслаў Славіцкі, Барыс Бабічэнка, Барыс Дэканідзе, Тадэвуш Васілеўскі, Эдвард Богдзюль. Усе належаць да вядомай «віленскай брыгады».

* * *

У беларусаў Вільні забралі два будынкі. Іх перадалі ў арэнду амерыканскаму бізнесмену літоўскага паходжання, які тут адкрывае індывідуальнае прадпрыемства «Г. А. Блюджюс. Фото». А гісторыя будынкаў такая. У 1930-х гадах на грошы, ахвяраваныя княгіняй М. Радзівіл і беларускай грамадскасцю, тры дамкі па вуліцы Жыгіманту купілі беларускія манахі ордэна марыянаў з Друі. Тут жылі і дзейнічалі беларускія адраджэнцы — ксяндзы А. Станкевіч, Я. Германовіч, В. Гадлеўскі, Ч. Сіповіч, У. Чарняўскі і інш.

23.10.1990 г. Віленская гарадская рада пастановай № 21 перадала гэтыя дамкі беларускай абшчыне г. Вільні. У хуткім часе адзін з іх быў перададзены на баланс ТБК. Яго кіраўнік спадар Х. Нюнька адзін з пакояў аддаў сваёй дачцэ, якая там стварыла «Салён-віватон» (масажны кабінет), у іншых пасялілася сям'я Сяргея Вітушкі (былы лідэр менскай «Талакі»), сям'я Сяргея Харэўскага, які таксама прыехаў з Беларусі (цяпер працуе дызайнерам газеты «Наша ніва»). У цокалі аднаго з дамкоў разгарнуў сваё прадпрыемства адзін з заснавальнікаў закрытага акцыянернага таварыства «Наша ніва» Алег Мінкін, спрабавала адкрыць камерцыйную краму (аб гэтым было напісана у газеце «Эхо Литвы») Нона Русак (закрытае акцыянернае таварыства «ГУДА»).

На гэтыя памяшканні (частку іх) прэтэндавала і ТБМ імя Ф. Скарыны Віленскага краю, каб адкрыць нядзельную беларускую рэлігійную школу, бібліятэку і каб мець сваю штаб-кватэру. Заявіла свае прэтэнзіі таксама Літоўская кангрэгацыя марыянаў св. Юрыя. А скончылася тым, што цяпер два дамкі ў беларусаў забралі. Гарадскія ўлады абяцаюць кампенсацыю, а як будзе на самай справе — невядома.

* * *

У Вільні працягваецца з перапынкамі працэс над лідэрам «Единства» Валерам Івановым. На лаўцы падсудных і 7 яго падручных. Справа разглядаецца ў Вярхоўным судзе Літвы.

* * *

У Вільні па вул. Жыгіманту, 12, побач з «Салёнам віватонам», цяпер стаіць кіёск Таварыства беларускай мовы, які выконвае ролю выставы беларускіх кніжак, газет і часопісаў. Гэта не спадабалася Сяргею Вітушцы. Кіраўнікі сябрыны склікалі сход сваіх актывістаў, каб даць «бой» ТБМ. Самі «завадатары» не з'явіліся на пасяджэнне. Пытанне засталося адкрытым, а прадстаўнікі ТБМ (Матусевіч, Гіль) у пісьмовай форме прад'явілі свае прэтэнзіі, менавіта:

— спыніць паклёпніцкую дзейнасць у адрас ТБМ,

— выдзеліць частку памяшкання ТБМ імя Ф. Скарыны,

— вярнуць ТБМ долю грашовых сродкаў, выдзеленых дэпартаментам па справах нацыянальнасцей.

Інфармацыйная служба ТБМ.

*Рэха*

# Навіны Бі-бі-сі — рэч патрэбная, але што з перакладчыкамі?

Ужо вось колькі часу Беларускае тэлебачанне трансліруе «Навіны Бі-бі-сі». Ідэя добрая і тым больш прыемная, што для нашых суайчыннікаў, якія не ведаюць англійскай мовы, робіцца сінхронны пераклад. Як быццам на беларускую мову. Спачатку пэўныя памылкі перакладчыкам можна было дараваць — справа для іх новая, патрэбен час, каб прызвычаіцца. Хаця прызвычаіцца да сінхроннага перакладу на беларускую мову лепш, канешне, у класе для сінхроннага перакладу, а ў эфір даваць якасную прадукцыю.

Перакладаць сінхронна зноў жа цяжка, я гэта разумею. Таму і паслаў на тэлебачанне ліст са сваімі парадамі, як зменшыць колькасць памылак.

Ды, пэўна, там парады староннягa не патрэбны. Мне здаецца, сітуацыя нават пагоршала.

Вось колькі прыкладаў: спачатку перакладчыкі ніяк не маглі асвоіць слова «мусон» — усё «мансун» ды «мансун». Толькі пад самы канец сезону мусонаў асвоілі тэрмін. А вось «Навіны»... за 23.12.93. Перакладчык Юры Грынкевіч:

— з узброенай точкі зрэнія!!!
— мошчная
— іспалніцелі
— урэлюгаванне!!!
— пасьцепенна
— канстутыцыйнай!!!

Няправільна вымаўляюцца таксама лічэбнікі. У мяне складаецца ўражанне, што спадары дакладна не ведаюць не толькі беларускай мовы, але і англійскай, а ва ўжытку карыстаюцца выключна расійскай, вось «аўтаматыка» і падводзіць словам, як і ў многіх іншых справах, бракуе прафесіяналізму. А ўвогуле даваць навіны Бі-бі-сі па-беларуску вельмі варта.

Мікола БУСЕЛ,
слухач Бі-бі-сі
па-англійску з 30-гадовым стажам.

# Жыць і забяспечыць жыццём нашчадкаў

стам». Не ведаю, ці так ужо ахвотна, ці па недагляду, а наогул праблема наконт паводзін прадстаўнікоў некаторых канфесій ёсць і, думаю, ураду давядзецца нарэшце прыняць адпаведныя захады, каб гэтыя няпрошаныя місіянеры не займаліся ў нас сумніцельнай апрацоўкай моладзі.

Цалкам згодзен,— піша Ніл Гілевіч,— і з вашай крытыкай тэлерадыёрэкламы: «Кожны дзень нас, амаль жабракоў, назойліва заклікаюць паехаць у Арабскія Эміраты, купіць аўтамабіль за некалькі мільёнаў. Ды гэта ж страшны здзек са свайго народа!» — Што... праўда, то праўда: такая рэклама можа сёння ўспрымацца нашым народам толькі як здзек. Бестактоўнасць неверагодная. Хамскія пацехі атлусцелых — на вачах у хворых «чарнобыльскіх» дзяцей, у даведзеных да нэндзы пенсіянераў, ветэранаў вайны і працы...

«Падкажыце, як нам жыць далей», звяртаецца да Ніла Гілевіча яго карэспандэнт, і народны дэпутат адказвае, што трэба думаць пра гэта, перш за ўсё пра гэта і толькі пра гэта. І думаць усім разам, бо мы разам жывём, у адной дзяржаве, пад адным небам, і звязаны адным гістарычным лёсам... Трэба жыць з пачуццём чалавечай годнасці. Трымацца спакойна. Беды пераносіць цярпліва і мужна. Цяжкіх жыццёвых праблем звалілася на нас безліч, мы падведзены да краю бездані. Ўратавацца зможам толькі разам, толькі пры ўмове, што будзем пачувацца Народам, што ўсіх нас аб'ядноўвае вялікая ідэя — ідэя Беларусі, Дзяржавы, Бацькаўшчыны. У гісторыі чалавецтва многія народы прайшлі праз падобныя выпрабаванні ў перыяд свайго нацыянальна-дзяржаўнага станаўлення. Пройдзем і мы. Калі будзем верыць у сябе. Калі будзем паважаць сябе. Калі кожны паасобку і ўсе разам пераканаемся, што прыйшоў наш наканаваны лёсам час. І зразумеем, што ў гістарычным жыцці-быцці з гэтым не жартуюць. І ўсвядомім, што калі будзем і далей разбураць, а не будаваць, знішчаць, а не тварыць — загінем. І калі з суседзямі не будзем жыць па-суседску дружалюбна — загінем. І калі дазволім манкуртам, халуям, прайдзісветам, зладзюгам і бессаромным цынікам кіраваць нашай Дзяржавай — загінем. Ну, а паколькі мы хочам жыць і забяспечыць нармальным людскім жыццём нашчадкаў, гаворыць Ніл Гілевіч у заключэнне, давайце будзем рабіць усё, што ад нас залежыць, на што мы здольныя,— каб не загінуць.

***Мова і мы***

# У вёсцы Таргуны палова насельніцтва па-беларуску не размаўляе

Адраджэнне мовы — адна з галоўных задач нашай інтэлігенцыі, асабліва настаўніцтва. Бо калі па-беларуску загавораць дзеці, то заўтра непазбежна загаворыць і цэлы народ. Але гэта, на жаль, пакуль разумеюць не ўсе.

Пра аднаго такога чалавека я і хачу расказаць. Ганна Парфёнаўна Корсак — настаўніца беларускай мовы і літаратуры Таргуноўскай школы (Докшыцкі раён), старшыня мясцовай суполкі ТБМ імя Ф. Скарыны і кіраўнік этнаграфічнага гуртка «Спадчына». Калісь Таргуны былі тыповай беларускай вёскай. А цяпер тут палова насельніцтва па-беларуску не размаўляе.

Ганна Парфёнаўна з гуртkоўцамі спачатку занялася зборам і захаваннем народнай спадчыны. Гуртkоўцы запісвалі беларускія песні, якія даўней спявалі іх бабулі, мясцовыя легенды і паданні. Збіралі па вёсцы і старадаўнія помнікі матэрыяльнай культуры. Такім чынам паступова стварыўся свой маленькі этнаграфічны музей, экспанаты якога сталі выкарыстоўвацца на ўроках мовы, літаратуры, гісторыі. Акрамя таго, абапіраючыся на сабраныя матэрыялы, гурткоўцы аднавілі мясцовыя народныя абрады: Каляды, гуканне вясны, засевіны, дажынкі, жаніцьбу Цярэшкі.

Вучні, якія займаліся ў Ганны Парфёнаўны, вылучаюцца не толькі чысцінёй беларускай мовы, але і глыбокім веданнем беларускай літаратуры, гісторыі, культуры, высокім нацыянальным патрыятызмам. Яна — сапраўдны сейбіт добрага і вечнага ў душах дзятвы.

**І. ФУРСЕВІЧ.**

**Філалогія**

# Мова і дыялекты: яднаць або супрацьпастаўляць?

*(Гутарка з кандыдатам філалагічных навук А. А. Крывіцкім)*

**— У кожнага народа, акрамя прамысловасці, гандлю, сельгасвытворчасці і іншых галін дзейнасці, ёсць яшчэ адна галіна, якая служыць людзям сродкам зносін, дазваляе удзельнічаць у грамадскім жыцці, у вытворчых працэсах і г.д. Як, на Вашу думку, «выглядае» цяпер наша моўная гаспадарка, ці ўсё ў ёй належным чынам адрэгулявана і ўпарадкавана?**

— У народаў з развітой эканомікай і культурай моўная гаспадарка досыць складаная і магутная. Як правіла, яна шматмоўная, але вядучая роля ў ёй належыць звычайна ўласнай мове народа з усім забеспячэннем яе функцыяніравання. Таму што гэта натуральна, зручна і выгадна для ўнутраных моўных зносін. З уласнай мовай свайго народа ў асяроддзі родных і блізкіх кожны чалавек пачынае сваё жыццё і дзякуючы ёй яднаецца са сваім народам. Яна звязвае народ з яго мінулым, адлюстроўвае здабыткі культуры. Усё, што назапашана ў самасвядомасці народа і вызначае яго духоўна, арганічна зліта ў ёй у адно цэлае, у тое, што называюць душой народа, Мова, яе сродкі і спосабы выяўлення і адлюстравання, яе вобразы і фарбы з'яўляюцца аблічча гэтай агульнай душы народа. Калі гаварыць пра нашу сённяшнюю моўную гаспадарку, то яна не простая. Але беларуская мова адваёўвае зараз сабе належную вядучую ролю ў зносінах і тым самым прыцягвае асаблівую ўвагу да сябе. Законам аб мовах вызначаны яе адносіны з іншымі мовамід, якія ўласцівы асобным групам насельніцтва ў нашай краіне.

**— Для многіх з нас беларуская нацыянальная мова — гэта перш за ўсё літаратурная мова. Ці можна назваць такое ўяўленне дакладным?**

— Не. Гэта недакладнае ўяўленне і нават, я б сказаў, шкоднае. Беларуская літаратурная мова з'яўляецца вельмі значным і важным набыткам народа. Але ў нацыянальнай мове гэта толькі адна з яе разнавіднасцей, да таго ж адносна маладая. Ёй па сутнасці толькі якіх-небудзь сто гадоў. А наша ж мова мае, як вядома, па меншай меры, тысячагадовую гісторыю. У сярэдневякоўі ў перыяд Вялікага Княства Літоўскага была падобная літаратурная разнавіднасць беларускай мовы — так званая старабеларуская мова. Літаратурная мова, на маю думку, гэта толькі вынік патрэбнага і важнага развіцця мовы народа.

**— Але ж наша нацыянальная мова, а гэта перш за ўсё традыцыйная вусная мова, складаецца з мноства мясцовых гаворак. Іх часта супрацьпастаўляюць літаратурнай мове.**

— Уласная жывая моўная стыхія з'яўляецца важнейшым зместам, сутнасцю нашай мовы. Мясцовыя гаворкі — гэта яе разнастайныя выявы. І не варта супрацьпастаўляць іх літаратурнай мове, таму што яна з'яўляецца толькі адной з выяў мовы народа, своеасаблівых, важных, але выяў. Тым самым хочацца давесці, што нацыянальная мова — гэта адзінства яе мясцовых разнавіднасцей, у першую чаргу і літаратурнай мовы. Пры гэтым вядучая роля тут адводзіцца мясцовым гаворкам, бо без іх літаратурная мова не можа існаваць. Яна ж жывіцца менавіта з гаворак і без іх не можа развівацца.

**— Як жа цяпер выглядае наша мясцовая моўная стыхія на нацыянальнай моўнай прасторы Беларусі?**

— Існуе старая спрадвечная, генетычная расчлененасць мясцовых гаворак на два дыялекты — паўночна-ўсходні і паўднёва-заходні — і сярэднебеларускую міждыялектную групу гаворак на між імі. І адначасова склалася гістарычна другасная расчлененасць беларускай нацыянальнай дыялектнай прасторы на так званыя моўныя дыялектныя зоны паводле сучаснай групоўкі беларускіх гаворак. У прыватнасці, на аснове гаворак усходняй часткі Беларусі склалася ўсходняя дыялектная маўленчая зона. Дыялектнае маўленне вызначаецца і адрозніваецца тут шэрагам розных занальных адметнасцей рускамоўнага паходжання. На поўдні ўсходняй часткі тэрыторыі Беларусі адасабляецца яшчэ паўднёва-ўсходняя дыялектная зона мясцовага беларускага маўлення. Тут яно характарызуецца ў дадатак да ўсходніх занальных адметнасцей яшчэ паўднёварускімі дыялектнымі асаблівасцямі. На аснове мясцовых гаворак заходняй часткі тэрыторыі Беларусі ўтварылася заходняя дыялектная зона. У адрозненне ад маўлення ва ўсходняй дыялектнай зоне заходняе занальнае дыялектнае маўленне вызначаецца галоўным чынам напластаваннямі польскамоўнай (ці нават шырэй — заходнеславянскай) моўнай прыналежнасцю, а таксама прыкметнай схільнасцю па арыентацыі ў гэты бок усёй мясцовай культурна-моўнай традыцыі (графіка, арфаграфія і г.д.). Асабліва вызначаецца ў гэтым паўночна-заходняя частка беларускай нацыянальнай дыялектнай прасторы, або так званая паўночна-заходняя дыялектная зона, дзе мясцовае маўленне мае ў аснове якраз ашмянска-віленскія мясцовыя гаворкі. У маўленні гэтай зоны маюць месца таксама літувізмы і сумесныя літоўска-беларускія і часткова латышска-беларускія набыткі.

**— Практыка агульнанароднай моватворчасці розных народаў паказвае, што ва ўмовах раздробленасці іх мясцовай моўнай спадчыны асновай і апорай такой моватворчасці ў моўным працэсе выступаюць у пераважнай большасці змешаныя згрупаванні гаворак. Як гэта выглядае ў нашай сучаснай нацыянальнай моватворчасці?**

— Ёсць важкія падставы прэтэндаваць на такую ролю ў нашай сучаснай аднаўленчай нацыянальнай моватворчасці і мясцоваму дыялектнаму маўленню цэнтральнай часткі Беларусі. І не толькі таму, што гэта маўленне цэнтральнае па сваіх адносінах да дыялектнага маўлення на астатняй тэрыторыі Беларусі. Відавочна, першым, хто адвёў асобнае месца ў выпрацоўцы нормаў літаратурнай беларускай мовы цэнтральнаму дыялектнаму маўленню, быў Б. Тарашкевіч. Добра вядома таксама, што ў 20-я гады гаворкі сярэдзіны Беларусі, наваколля Менска (Слуцк, Асіповічы, Чэрвень, Барысаў, Лагойск і інш.) сталі фактычна адыгрываць вядучую ролю ў нацыянальным моватворчым працэсе ў той час. Нарэшце, разам з чатырма адзначанымі дыялектнымі зонамі, якія зарыентаваны ў адметных асаблівасцях дыялектнага маўлення на суседнія мовы, у першую чаргу выяўлена таксама рэальнае занальнае згрупаванне мясцовых гаворак рознай дыялектнай прыналежнасці, якое якраз ахоплівае і адасоблівае мясцовыя гаворкі цэнтральнай часткі тэрыторыі Беларусі. Гэта так званая цэнтральная дыялектная зона.

**— Што адрознівае мясцовыя гаворкі цэнтральнай дыялектнай зоны ад гаворак іншых дыялектных зон?**

— Цэнтральная дыялектная зона аб'ядноўвае па агульных або блізкіх асаблівасцях даволі значны масіў мясцовых гаворак як паўднёва-заходняй дыялектнай прыналежнасці (слуцкая група), так і паўночна-ўсходняй (на поўнач ад Менска, наваколле Чэрвеня, Барысава, Лагойска, Лепеля), а таксама і сярэднебеларускай групы (на поўдзень ад Менска, наваколле Пухавіч, Асіповіч, Бабруйска). У адрозненне ад гаворак іншых дыялектных зон, мясцовыя гаворкі цэнтральнай дыялектнай зоны адасабляюцца тэрытарыяльна і ядналюцца як бы найбольш яркімі характэрнымі асаблівасцямі беларускай мовы. Найперш гэта фанетычныя асаблівасці, а таксама агульная ў многім лексіка. На маю думку, цэнтральная дыялектная зона, яе дыялектнае маўленне больш за ўсё мае падставы і права быць арыенцірам пры ўдасканаленні нашай сучаснай літаратурнай мовы. І тым самым асновай для прымірэння і аб'яднання нашых нацыянальных культурных моватворчых сіл. Яна найбольш узорная і самабытная па сваіх мясцовых гаворках, і сучаснае мясцовае дыялектнае маўленне тут, відаць, сапраўды найбольш чыстае ад усходніх і заходніх уплываў. Яна не аднастайная па дыялектнай прыналежнасці гаворак, што цягне за сабой варыянтнасць літаратурных нормаў. Але гэта не занальная, а дыялектная варыянтнасць, якая не вядзе да страты літаратурнай мовай яе самабытнасці і нацыянальнай спецыфікі. Арыентацыя на цэнтральную дыялектную зону можа стаць аднаўленнем кансалідацыйнага дыялектнага працэсу ў цэнтральнай частцы беларускай нацыянальнай моўнай прасторы. І, на маю думку, філалагічная інтэлігенцыя і наогул нацыянальная моватворчая грамадскасць павінны быць на чале гэтага працэсу, а не скіроўваць яго ў бок той ці іншай дыялектнай зоны, хай сабе і досыць значнай у мінулым. Магчыма, з часам дыялектнае маўленне цэнтральнай зоны разам з літаратурнай мовай на яго аснове зноў стане ўзорам вуснай і пісьмовай беларускай мовы для ўсіх беларусаў.

**— Аляксандр Антонавіч, што, на Вашу думку, значыць сёння моўнае адраджэнне?**

— Пашырэнне літаратурнай мовы, аднаўленне мясцовых моўных традыцый і цікавасці да іх, як да іншых традыцый, а таксама краязнаўчая праца па мове і гаворках. Трэба паважна і ашчадна аднесціся да таго, што захавалася. У нас ёсць яшчэ як паўсядзённая мясцовая моўная апратка — простая, традыцыйная, так і святочная, выхадная — афіцыйны моўны гарнітур ці мундзір,— літаратурная мова. Гэта трэба адзначыць, таму што некаторыя апантаныя адраджэнцы дакрычаліся да таго, што быццам сапраўдную беларускую мову ў нас «рэдка які беларус чуў». У дадзеным выпадку я маю на ўвазе публікацыю старшыні Менскай гарадской рады ТБМ імя Ф. Скарыны прафесара Міколы Савіцкага ў «Звяздзе» (№ 217 ад 24.11.1993) «Рэдка які беларус чуў сапраўдную беларускую мову». Я перакананы, што залішні нігілізм у адносінах да таго, што ёсць зараз у нашай нацыянальнай моўнай гаспадарцы, сучаснае моўнае наватарства выклікаюць адмоўную рэакцыю на моўнае адраджэнне наогул. У тым ліку і ў Вярхоўным Савеце.

**Распытвала Любоў БАРШЧЭЎСКАЯ.**

# БЕЛАРУСКІ ПРАВАПІС: кіравацца прынцыпам навуковасці, павагі да традыцый, натуральнасці маўлення і зручнасці карыстання літаратурнай мовай

*Камісія завяршыла першы этап работы і выносіць на разгляд грамадскасці свае прапановы па зменах у правапісе. Як і трэба было чакаць, найбольш спрэчак і разыходжанняў сярод членаў Камісіі выклікала пытанне аб правапісе мяккага знака: выпрацаваны аж чатыры варыянты яго пашырэння ў пісьме. Паколькі пытанне асабліва важнае, Камісія і прапануе ўсе чатыры ўвазе тых, хто мае намер прыняць удзел у абмеркаванні правапісу. Усе астатнія прапановы аб зменах у правапісе былі прыняты на пасяджэннях Камісіі аднагалосна ці амаль аднагалосна.*

*Адрасуючыся да грамадскасці, хацелася б нагадаць, што само пытанне аб удакладненні правапісу нашай літаратурнай мовы не надуманае і не кімсьці навязанае, як гэта здаецца, мяркуючы па лістах у Камісію, некаторым шаноўным грамадзянам. Яно ўзнікла таму, што нельга далей пакідаць па-за ўвагай той разнабой у мове друку, радыё і тэлебачання, які выразна абазначыўся і набывае ўсё большыя маштабы. У грамадскай моўнай практыцы ўсталёўваецца свавольства і хаос, што вельмі згубна адбіваецца на агульным узроўні пісьменнасці ў краіне, не кажучы пра тое, што гэта не робіць нам, грамадству і дзяржаве, гонару. Не можа не выклікаць шкадавання, што рэакцыя на палітычную тэндэнцыйнасць рэформы правапісу 1933 года штурхае некаторых грамадзян у другую крайнасць, калі таксама выяўляецца відочная тэндэнцыйнасць, толькі з процілеглым знакам. А трэба ў гэтай справе кіравацца прынцыпамі навуковасці, эстэтычнасці (мілагучнасці), павагі да традыцый, натуральнасці маўлення, даступнасці авалодання і зручнасці карыстання літаратурнай мовай. Іменна гэтым кіравацца ў размове аб правапісе і заклікае Камісія.*

*Заўвагі і водгукі просім выказаць у друку, а таксама прысылаць у Камісію на адрас: 220016, г. Менск, вул. К. Маркса, 38, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Камісія па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны. Тэрмін — да 1 красавіка 1994 г.*

## Выніковы дакумент

### Дзяржаўнай камісіі па ўдакладненні правапісу беларускай літаратурнай мовы

На абмеркаванне грамадскасці выносяцца наступныя варыянты правапісу змякчальнага мяккага знака.

1а. Пашырыць напісанне змякчальнага мяккага знака і даць наступную фармуліроўку п. 2б § 87 «Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» (Мн., 1959):

«Мяккі знак пішацца перад суфіксам *-ск-* у прыметніках і ўласных імёнах, утвораных ад назоўнікаў, якія канчаюцца мяккім *н: студзеньскі, чэрвеньскі, ліпеньскі, восеньскі, коньскі, Смаргоньскі (раён), Быценьскі, Блоньскі, Чэрвеньскі, Любаньскі, «Радуньскі» (калгас)»*.

Мяккі знак пісаць таксама пасля прыставак, якія канчаюцца на *з*, перад *е, ё, ю, я* і націскным *і: зьезд, зьёрзаць, разьюшаны, зьялчэць, зьінець.*

1б. Пашырыць напісанне змякчальнага мяккага знака і даць наступную фармуліроўку п. 2б (87) «Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі»:

«Мяккі знак лішацца перад суфіксам *-ск-* у прыметніках і ўласных імёнах, утвораных ад назоўнікаў, якія канчаюцца мяккім *н: студзеньскі, чэрвеньскі, ліпеньскі, восеньскі, коньскі, астраханьскі, Смаргоньскі, Быценьскі, Блоньскі, Чэрвеньскі, Любаньскі, «Радуньскі» (калгас)»*.

П. 3. § 86 даць у наступнай фармуліроўцы:

«Мяккі знак пішацца для абазначэння мяккасці зычных *з, с, ц, дз* перад наступным мяккім зычным: *сьнег, сьнедаць, прозьвішча, барацьбіт, зьвінець, радасьць, сьціхаць, лазьня, зьмена, зьлезьці, цьвік, цьвісьці, цьмяны, дзьверы, дзьве, будзьце, шэсьць, штосьці, ледзьве, пісьменнік, васьмі, усьміхацца, паўзьверх, паўзьмены, зьява, зьёрзаць, разьезд.*

Аднак мяккі знак не пішацца:

пасля зычных перад мяккімі *к, г, х: скінуць, скіраваць, скірда, маскіроўка, раскідаць, раскілзаць, згіб, разгінаць, разгерметызаваць, схіліць, схіліцца, расхінуць,* а таксама ў словах перад *г, к, х* — пасля цвёрдых зычных: *брызгі, польскі;*

у канцы прыназоўнікаў, якія канчаюцца на *з*, перад мяккімі зычнымі: *без мяне, без людзей, паўз лес, паўз лінію, з некім, з лесу, з ёй (йой), з імі (йімі);*

паміж літарамі, якімі перадаецца падаўжэнне зычных, а таксама паміж прыставачнымі і карэннымі *с, з: насенне, заданне, ралля, галлё, палоззе, калоссе, ліццё, суддзя; ссекчы, ссінець, ссесьціся, рассяліць, бяссільны, бяссьмерце, бяссьледны, бяссьнежны, ззелянець, беззямельны, беззьмястоўны, бяззьменны;* не пішацца мяккі знак пасля *з* у словах *ззяць, ззянне.*

1в. Абазначаць у межах слова памякчэнне зычных *з, с, дз, ц* мяккім знакам перад мяккімі зычнымі (акрамя *г, к, х*) і ётавымі галоснымі: *зьвер, лазьня, прозьвішча, сьнег, сьпяваць, у масьле, радасьць, дзьверы, цьвік, зьехаць, зьява, разьюшыцца, зьёрзаць.*

Мяккі знак пісаць таксама пры абазначэнні мяккіх падоўжаных (падвойных) зычных: *ральля, пытаньне, палозьзе, Палесьсе, свацьця.* Падоўжанае (падвойнае) *дз* перадаваць праз *ддз: суддзя, разводдзе, аддзел.*

1г. Увесці наступнае правіла:

Пісаць мяккі знак для абазначэння мяккіх зычных *з, с, ц, дз* перад наступным мяккім: *сьнег, прозьвішча, радасьць, лазьня, цьвік, дзьверы, будзьце, шэсцьдзесят, штосьці, ледзьве, пісьменнік, васьмю, авоські, паўзьверх, паўзьмены, бязьмежны, зьверху, бесьперапынна, расьпісацца, бесьперсьпектыўнасьць, бязьзьменнасьць;*

пісаць мяккі знак перад суфіксам *-ск-* у прыметніках, утвораных ад назоўнікаў, якія заканчваюцца мяккім *н: коньскі, восеньскі, астраханьскі, Любаньскі (раён), чэрвеньскі, ліпеньскі, жнівеньскі, сьнежаньскі, студзеньскі;*

мяккі знак пісаць таксама пасля прыставак, якія канчаюцца на *з*, перад *е, ё, ю, я* і націскным *і: зьезд, зьёрзаць, разьюшаны, зьялчэць, зьінець.*

Мяккі знак не пішацца:

перад мяккімі *г, к, х: скінуць, згінуць, схіліцца;*

пасля прыназоўнікаў, якія канчаюцца на *з: цераз пень, паўз лес, без мяне, з яго, праз сьнег;*

паміж падоўжанымі зычнымі: *зелле, насенне, куцця, ралля, калоссе, разводдзе.*

2. Падпарадкаваць агульнаму правілу правапісу *е, я* ў першым складзе перад націскам напісанне слоў *дзевя́ты, дзеся́ты, семна́ццаць, васемна́ццаць* і аднакарэнных з імі і пісаць *дзявя́ты, дзявя́тка, дзявя́цера, дзяся́ты, дзяся́тнік, дзяся́цера, сямна́ццаць, васямна́ццаць, васямна́ццаты* і г.д.

Згодна з гэтым правілам пісаць злучальны галосны *е* або *я* ў складаных словах: *вогняўсто́йлівы, земляўла́снік, заходнярýскі, зерняўло́ўнік, зернясхо́вішча, зернесушы́лка, своеасаблівы.*

3. Канцавыя спалучэнні асновы *-эр, -эл (ь)* іншамоўных слоў перадаваць у ненаціскным становішчы праз *-ар, -ал(ь): ва́ўчар, о́рдар, мі́стар, камп'ю́тар, ка́рцар, сві́тар, шні́цаль, шпі́ндаль, мі́таль, шпа́таль, фо́рталь, Ка́ртар, Ге́ншар, Ге́ндаль, Ка́рал.*

4. Напісанне пачатковага ненаціскнога *у* ў запазычаных словах падпарадкаваць агульнаму правілу правапісу *у, ў: студэнтам нашага ўніверсітэта, правесці ўніфікацыю, вучнёўская ўніформа, належаў да ўніяцкага веравызнання.*

5. На канцы запазычаных слоў пісаць *іё, ыё*, а не *іо, ыо: трыё, радыё, рацыё, сальфеджыё, Антоніё, Сільвіё, Рыё-дэ-Жанейра.*

6. Кожную састаўную частку складанаскарочаных слоў пісаць так, як яна пішацца ў адпаведным поўным слове: *гарсавет, сельмаг, прафсаюз, сацпартыя.*

У апошняй частцы некаторых складанаскарочаных слоў можа аднаўляцца этымалагічнае *о*, і тады дапускаецца іх дваякае напісанне: *выканкам* і *выканком, селькар* і *селькор, спецкар* і *спецкор, аграпрам* і *агрaпром.*

7. Дапускаецца перадача ўзмацняльнай часціцы і злучніка *і* літарай *й*, калі папярэдняе слова заканчваецца на галосны: *яна і пытаецца — яна й пытаецца; ды і дадому прыходзіць позна — ды й дадому прыходзіць позна; будзе свята і на нашай вуліцы — будзе свята й на нашай вуліцы; бацька і сын — бацька й сын.*

8. У прыметніках, утвораных ад назоўнікаў іншамоўнага паходжання, у злучэнні *ст* перад суфіксам *-н-* адпаведна літаратурнаму вымаўленню *т* на пісьме не перадаваць: *баласт — баласны, фарпост — фарпосны, аванпост — аванпосны, кампост — кампосны, кантраст — кантрасны.*

9. Ва ўсіх выпадках у прыметніках, у якіх канцавы зычны асновы *к* спалучаецца з суфіксальным *с*, спалучэнне *-ск-* перадаваць праз *ц: узбецкі, таджыцкі, каракалпацкі, калмыцкі, гіляцкі.*

10. Спалучэнне *сч*, якое паходзіць з *ск*, перадаваць праз *шч* у словах *пяшчаны, пяшчанік, пяшчанікавы, пяшчанка, пяшчынка, пяшчана, брушчатка, брушчатнік, брушчаты* згодна з літаратурным вымаўленнем.

11. Асабовыя ўласныя імёны пісаць згодна з нацыянальнай традыцыяй, улічваючы пажаданні бацькоў і носьбітаў.

Побач з напісаннямі *Ілля, Ілліч, Іллічоўка, Улляна, Уллянаўскі, Кассян* дапускаецца напісанне *Ілья, Ільіч, Ільічоўка, Ульяна, Ульянаўскі, Касьян.*

Побач з напісаннямі *Жана, Сюзана* дапускаюцца напісанні *Жанна, Сюзанна,* але толькі *Тацяна.*

12. Правілы пераносу слоў сфармуляваць наступны чынам:

1. З аднаго радка ў другі часткі слоў пераносяцца па складах: *са-ро-ка, га-ла-ва, стра-ва, тэ-атр.*

Але:

а) адну літару, хоць яна і ўтварае склад, нельга ні пакідаць, ні пераносіць у новы радок: *аса-ка, ава-дзень.* Некаторыя словы нельга наогул разбіваць пераносам: *Азія, асот;*

б) літары *ў, й, ь* і *апостраф* нельга адрываць ад папярэдняй літары: *няў-да-ча, слаў-ны, праў-нук, се-наў-бор-ка, вай-ско-вы, няй-на-чай, най-гор-шы, вель-мі, ве-льмі, гуль-ня, гу-льня, кась-ба, ка-сьба, пад'-езд, па-д'езд.*

2. Пры збегу зычных у сярэдзіне слова падзел яго на часткі адвольны: *ся-стра, сяс-тра, сяст-ра; бу-льба, буль-ба; ра-зна-стай-ны, раз-нас-тай-ны; пад-крэ-сліць, па-дкрэс-ліць; спа-ды-спа-ду, спа-дыс-па-ду; мя-сцком, мяс-цком, мясц-ком.*

Нельга разбіваць спалучэнні літар *дж* і *дз*, калі яны абазначаюць адзін гук: *ура-джай, са-джу, ра-дзі-ма, за-дзі-ра.*

Камісія.



НА 48-Й СЕСІІ ГЕНЕРАЛЬНАЙ АСАМБЛЕІ ААН АДБЫЛІСЯ ВЫБАРЫ ПЯЦІ НЕПАСТАЯННЫХ ЧЛЕНАЎ САВЕТА БЯСПЕКІ. Ад групы ўсходнеславянскіх дзяржаў на адно месца ў СБ прэтэндавалі дзве дзяржавы — Рэспубліка Беларусь і Чэшская Рэспубліка. У першым туры ні адзін з прэтэндэнтаў не набраў дастатковай колькасці галасоў: за Чэхію прагаласавалі 113, за Беларусь — 62 дзяржавы. Па выніках другога тура прайшла кандыдатура Чэхіі.

ВЯРХОЎНЫ САВЕТ БЕЛАРУСІ РАТЫФІКАВАЎ 238 ГАЛАСАМІ СТАТУТ СНД, прыняўшы ў сваёй пастанове тры агаворкі. Галоўная з іх — не дапусціць без дазволу Вярхоўнага Савета Беларусі прымянення і размяшчэння нашых Узброеных Сіл на тэрыторыі іншых дзяржаў Садружнасці, гэтак жа, як і Узброеных Сіл іншых дзяржаў СНД на нашай тэрыторыі.

«ВАЕННЫЯ — ВАЕННЫМ» — ТАКУЮ ПРАГРАМУ ПРЫНЯЛІ Міністэрствы абароны Рэспублікі Беларусь і ЗША. У ёй прадугледжана цеснае супрацоўніцтва ў ваеннай галіне.

## Падарунак віленскім беларусам

*Аб'яднанне беларусаў свету «Бацькаўшчына» прыняло рашэнне аб перадачы Таварыству беларускай культуры ў Вільні мемарыяльных дошак, прысвечаных Янку Купалу, Браніславу Тарашкевічу, Рыгору Шырме, чыя дзейнасць звязана з беларускім Адраджэннем у гэтым горадзе. Ужо маецца дамоўленасць з уладамі літоўскай сталіцы аб устаноўцы гэтых памятных знакаў на будынках горада. Дошкі вырабіў менскі мастак Алесь Міронччык, а ўсе фінансавыя выдаткі ўзяла на сябе «Бацькаўшчына». Зараз амаль скончана праца над чацвёртай мемарыяльнай дошкай, прысвечанай слаўнаму сыну беларускага народа Кастусю Каліноўскаму.*

Тодар ТАНКЕВІЧ.

МЕРКАВАННІ

# Словы іншамоўнага паходжання: шукаць заканамернасці напісання

У нашай мове галосны гук [э] спалучаецца і з цвёрдымі і з мяккімі зычнымі, што спрыяе дакладнай перадачы гучання іншамоўных слоў. Можна нават сказаць, што гэтым гукам маркіруем або праз яго пазнаём чужынца ў спрадвечна беларускай лексіцы. Натуральна, шмат якія варварызмы, засвоеныя раней, страцілі гэтую маркіроўку, змітаваўшы нашыя словы: *камета, планета, дыверсія, бетон, метал.* І такіх слоў нямала. І нельга не сказаць, што павелічэнне іх колькасці — тэндэнцыя.

Праблема іншая: ці трэба гэтай тэндэнцыі надаваць штучнае паскарэнне, імкнучыся ў кожным слове іншамоўнага паходжання, дзе ёсць спалучэнне зычнага з **э**, рабіць гэты зычны мяккім. Бо не да кожнага слова гэта пасуе. А як вызначыць такія словы?

Адно з найбольш агульных назіранняў: ненатуральным выглядае змякчэнне зычных перад **э** ў іншамоўных уласных назвах, якія абазначаюць чужыя для нас рэаліі. Таму маркіроўка іншамоўнасці ў іх зусім натуральная.

Зафіксаваныя ў «Арфаграфічным слоўніку» Лобана, Судніка (далей: АС) і акадэмічным «Слоўніку беларускай мовы» (далей СБМ) *Антверпен, Базель, Барнео, Дарданелы, Рыо-дэ-Жанейра, Душанбе* вымаўляць з мяккімі зычнымі перад **э**, як кажуць, не паварочваецца язык. Таксама як і некаторыя прозвішчы (з таго самага АС): *Ібсен, Кампанела, Лінней, Мюнхаўзен, Нансен.* Але не выклікаюць пярэчанняў напісанні *Бетховен, Феербах, Бейрут, Бенін, Меконг, Пенсільванія, Седан.* На якой падставе? Чым яны адрозніваюцца? Сапраўды, чаму ў слове *Дзюсельдорф* хочацца мякчыць зычны **с**, а ў слове *Эсэн* (напісанне маё. В. В.) — не.

Вычарпальных тлумачэнняў няма, а жаданне пісаць неаднолькава — ёсць. Зрэшты, некаторыя асобныя заканамернасці ўсё ж такі прасочваюцца. Так, вылучаецца сярод астатніх пар цвёрдых і мяккіх зычных пара **л—л'**, у якой ёсць дамінанта — другі гук (таму прымальныя напісанні *Арлеан, Лесота, Свазіленд, Сілезія, Галілео Галілей, Верлен).* Але: *Бырлэдзяну* (АС), Відаць, немалаважным фактарам у выбары напісання (вымаўлення) з'яўляецца ўлік асаблівасцей канкрэтных моў, у гэтым выпадку — румынскай. Аналагічны выпадак: *Хуанхэ, Тайбэй* (СБМ). І ў англійскай мове ёсць некалькі гукаў, падобных да нашага [э]. Адзін з іх — самы шырокі па артыкуляцыі — абазначаецца ў транскрыпцыі асобным знакам. У рускай транслітарацыі, напрыклад, ён супрацьпастаўляецца звычайна ўсім астатнім і перадаецца літарай **э** (часам **а**), а ўсе астатнія, як правіла, літарай **е**: *Блэкберн* (па-беларуску лепш было б *Блэкбэрн* — гл. ніжэй), *Блэкпул, Фрэнсіс Бэкон* (у АС аналагічна: *Бэкан).* Зразумела, і ў беларускай мове было б лагічна перадаваць яго той самай літарай. І не толькі яго: усё залежыць ад таго, ці мэтазгодна вымаўляць папярэдні зычны цвёрда.

Далей. Адчуваецца перавага цвёрдых зычных перад **э** ў напісанні шмат якіх іншамоўных слоў, у прыватнасці, у канцы французскіх: *Бадуэн дэ Куртэнэ, Флабэр, Мерымэ,* але чамусьці *Праспер* (дарэчы, на вокладцы кнігі з серыі «Скарбы сусветнай літаратуры» маем больш лагічны надпіс: *Праспэр Мерымэ, Жызэль, Шапэн* (у газетах падаецца і з літарай **е**).

Асобны выпадак (але не менш дзіўны) — грузінскія прозвішчы: *Геаргадзе, Арджанікідзе* (АС). Чаму іх пішуць з канцавой **е**? Можа, беларусы бачаць тут аналогію са словамі, у якіх адбылося дзеканне? Але гэта несупастаўляльныя рэчы! Ці таму, што так пішацца па-руску?

Звяртае ўвагу з гэтай нагоды адна са зносак у навучальным дапаможніку Ф. М. Янкоўскага «Гістарычная граматыка беларускай мовы» (с. 209): «У словах *перфект, плюсквамперфект, імперфект* зычныя [п], [ф], цвёрдыя, як і ў словах тыпу *пэўны, фэст*. Аднак на пісьме ў словах *перфект, плюсквамперфект, імперфект* цвёрдасць [п], [ф], насуперак фанетычнаму прынцыпу напісання, не абазначаецца: параўн. вымаўленне і напісанне слоў **пэўнасць, пэрліна, гэты, арэна, шэры, тэмпы, Рэчыца, фэст».** Як бачым, цвёрдасць зычных у беларускай мове «насуперак фанетычнаму прынцыпу напісання» можа не абазначацца.

Наступныя рысы праблемы. Адным з дадатковых фактараў выбару таго ці іншага напісання (вымаўлення) мог бы быць улік дыстантнай асіміляцыі. Напрыклад, у слове *Блэкбэрн* (напісанне маё) перад першым [э] вымаўляецца цвёрды [л] (пра гэта гл. вышэй). Наяўнасць аднаго цвёрдага зычнага перад [э] схіляе нас вымаўляць цвёрда і другі. Ці не тое самае і ў вышэйпамянёных словах *Дзюсельдорф, Эсэн?* Зразумела, што далёка не да ўсіх слоў можна прыстасаваць хаця б адзін са згаданых крытэрыяў. Але гэта не падстава, каб ва ўсіх выпадках карыстацца адной агульнай схемай. Бо крананне кожнага слова, нават калі чуеш яго ўпершыню, высвечвае нейкую скрытую, лагічна невытлумачальную асацыятыўнасць.

Варта пералічыць непрымальныя напісанні асабовых іменаў: *Эрнест* (дарэчы, рэдактар «Нашага слова» піша сваё імя з двума **э**), *Навела, Агнеса, Жазефіна, Ізабела, Нінель, Інеса* (узятыя з «Беларуска-рускага слоўніка» Грабчыкава, два апошнія ёсць і ў АС). Супрацьпаставіць ім можна натуральныя напісанні *Нэлі* (у абодвух гэтых слоўніках), *Жызэль* (у АС). Згадаем і агульныя назвы: *навела, панель, шрапнель, менеджэр* (дарэчы, больш натуральнае напісанне — *мэнэджэр* — прапануе І. Кручонак у артыкуле «Недакладная «эканоміка», «Наша слова», № 34 за 1993 г.), *секс, эсенцыя, нонсенс, сенсуальны* (СБМ), *экстрасенс* («ЛіМ», № 25 за 1993 г.; у слоўніках не зафіксаванае). Такое напісанне чатырох апошніх слоў не толькі ненатуральнае, але і нелагічнае, бо ўсе яны разам з шырокаўжываным сэнсам маюць адзіны для іх лацінскі корань.

Ва ўсёй гэтай неўладкаванасці бачыцца нейкая нездаровая тэндэнцыйнасць, якая прыводзіць да скажэнняў нават тых напісанняў, што зафіксаваныя ў слоўніках: *Шапен* (гл. вышэй), *медрэсе* («Роднае слова», № 3 за 1992 г.), хаця ў СБМ маем больш натуральнае *медрэсэ,* як і *галіфэ, глясэ, кафэ, безэ, эсэ.*

Пададзеныя ў артыкуле прапановы маглі б стаць адной з прыступак да кампрамісу паміж прыхільнікамі існуючага варыянта беларускага правапісу і «тарашкевіцы». Мяркую, што напісанні накшталт *гэнэрал, мэдаль, спэцыяліст, каапэратыў* з пазіцый сённяшняга часу, якія нельга не ўлічваць, падаюцца не менш ненатуральнымі, чым абмеркаваныя вышэй.

**Валеры ВАРАНОВІЧ,**
**выкладчык Гродзенскага універсітэта.**

г. Гродна.

# Віншуем!



**Шаноўны Мікола Іванавіч, віншуем Вас з юбілеем. Жадаем моцнага здароўя, поспехаў ва ўсіх добрых справах, сямейнага дабрабыту. І прыміце ў падарунак гэты акраверш.**

**Сябры рады ТБМ Заводскага раёна Менска.**

*P.S.* **У акравершы звярніце ўвагу на першыя літары паэтычных радкоў.**

**Мікола ЛАВІЦКІ**

## Малітва за Беларусь

*Святы Божа — святы Бессмяротны!*
*Ахавай незалежны наш край.*
*Вечна квітнее хай кут гэты родны*
*І чужынцу яго ў палон не аддай.*
*Церплівы народ давялі да галечы,—*
*Кіруе, ва ўладзе не беларус,*
*Абдзелены лёсам і з мовай знявечанай,*
*Мусіць імкнуцца ў расійскі хаўрус.*
*Устрымай жа ад гэтай спакусы,*
*Магутны сусвету Уладар,*
*І моцы і розуму дай беларусу,*
*Каб быў сам сабе гаспадар.*

*Асвяці, Усявышні, шлях нашай Пагоні —*
*Ляціць хай ваяр наўздагон,*
*Ад выродкаў, ворагаў нас абароніць.*
*Юду ж спаткае праклён.*

## Ганарымся! Захапляемся! Зайздросцім!

**4 лютага г.г. спаўняецца 60 гадоў Міколу Савіцкаму — старшыні Менскай гарадской арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, прафесару кафедры інфарматыкі і вылічальнай тэхнікі Беларускага эканамічнага універсітэта.**

**За доўгі перыяд сваёй плённай навукова-педагагічнай дзейнасці Мікола Іванавіч Савіцкі самааддана ўзбагачаў прафесійнымі ведамі не адно пакаленне студэнтаў. Ён — аўтар больш сотні грунтоўных навуковых прац. Сярод іх — падручнік «Техника вычислений», па якім, дарэчы, звыш дваццаці гадоў займаліся студэнты ўсіх тэхнікумаў эканамічнага профілю былога СССР. Для студэнтаў ВНУ прафесар Савіцкі напісаў падручнік «Вычислительные машины и программирование» (выдаваўся двойчы), два спецыяльныя дапаможнікі па машыннай апрацоўцы эканамічнай інфармацыі. Мікола Іванавіч — аўтар комплексу вучэбна-метадычнага і навукова-метадычнага забеспячэння па тэхнічных сродках сістэм кіравання і праграміравання для ВНУ і тэхнікумаў.**

**Плённую навукова-педагагічную дзейнасць прафесар Мікола Савіцкі ўдала спалучае з актыўным удзелам у культурна-грамадскім жыцці. Ён першы ў незалежнай Беларусі пачаў выкладаць інфарматыку і вылічальную тэхніку на беларускай мове. А пазалетась выпусціў «Руска-беларуска-ангельскі слоўнік па інфарматыцы і вылічальнай тэхніцы». Адзначым, што аналагаў падобнаму выданню няма.**

**У 1991 годзе М. І. Савіцкі абіраецца старшынёй сталічнай арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны. Яго дзейнасць на гэтай пасадзе вызначаецца прынцыповасцю і дзелавітасцю, актыўнай работай па адраджэнні беларускай нацыянальнай культуры і роднай мовы. І ў тым, што беларускасць у нашай сталіцы паступова пашыраецца, ёсць заслуга і Міколы Савіцкага. Па вострых пытаннях нацыянальнага Адраджэння ён часта выступае ў друку, на радыё, удзельнічае ў навуковых і навукова-практычных канферэнцыях, дзе разглядаюцца праблемы нацыянальнай культуры, навукі і адукацыі. На грамадскіх пачатках прафесар Мікола Савіцкі ўзначальвае рабочую групу Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны.**

**А ўсе, хто асабіста ведае Міколу Іванавіча, перакананы, што гэта просты ў абыходжанні, шчыры і сардэчны, добразычлівы чалавек, невычэрпная энергія якога ў ажыццяўленні ідэалаў нацыянальнага Адраджэння Бацькаўшчыны проста зачароўвае. За гэтыя свае цудоўныя якасці ён па заслугах карыстаецца вялікім аўтарытэтам і павагай самых розных людзей.**

**Віншуем Вас з юбілеем, шаноўны Мікола Іванавіч! Моцнага Вам здароўя, шчасця, даўгалецця і далейшых поспехаў у высакароднай справе патрыятычнага служэння нашай Айчыне!**

**Сакратарыят ТБМ імя Ф. Скарыны.**
**Рэдакцыя газеты «Наша слова».**




*Рубрыку вядзе*
*Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

Ролю Яніса Райніса (1865—1929) ў фарміраванні новай латышскай літаратуры і ва ўмацаванні латышска-беларускага літаратурнага сяброўства цяжка пераацаніць. Новыя пераклады С. Панізьніка зробленыя з дапамогай даслоўнікаў, падрыхтаваных Нінай Янсане.

**Яніс РАЙНІС**

### УЛЮБЁНЕЦ У АЙЧЫНУ

Хто любіць айчыну, той мае свой
кут —
І дах над сабой і апошні прытулак;
Такому тут хлеб ды любоў —
паратунак,
Такому разумныя існасці — тут.

Ды не! Ёсць яшчэ закаваныя сэрцы,—
З іх молат не выкрасе іскры пакут,
Айчыне не будуць яны аднаверцы.

Іх лёс бесталанны вось з гэтай
прычыны
Ў падмурак не ляжа каханай айчыны.

### КВЕТКАВЫЯ КРОЗЫ

Мо таму я глумлю жыццё,
Уцякаю ў пустэльні,
Што не кожная мара кветак
Уваскрашаецца ў плодзе?

**Гётэ. «Праметэй»**

Звяла ўсё, спрахла, у нябыт сышло,
Панства жуды, дзе было святло —
..............................................

Сцісні ты зубы, нясі жыццё,
Хоць з-пад рабрынаў тырчыць асцё.
Сцісні ты зубы пад гнёт пакут:
Стыне апошняй надзеі кут.

Хоць з тваіх жылаў трэск гужавы,—
Родзіцца ў цемры прамень жывы!

### ТАК НЕ БУДЗЕ

Не можа быць так, каб ледаход
Напор свой суняў, пайшоў на звод.
Дарма надзеі! Трухлявы лад
Плынь не паверне ўжо назад.

Хай страшыць крыгі зубасты злом,
Дзеля свабоды мы ўсе жывём.
Не можа быць так, каб ледаход
Не змёў дашчэнту стары аплот!

### МЕМАРАНДУМ

Доўга чакалі мы, доўга.
Мо цэлую вечнасць чакалі;
Зрэдзьчас штосьць прасілі сабе —
Марылі вымаліць лёс.

Хоць у надзеі жыць можна
Ды паслухмяна маліцца,
Лепш не чакаць што дадуць:
Трэба наважыцца — ўзяць.

**Пераклад з латышскай**
**Сяргея ПАНІЗЬНІКА.**

# Наш клопат — пераклады на беларускую мову

***Яшчэ на самым пачатку свайго існавання газета «Наша слова» звяртала ўвагу на дзейнасць перакладчыкаў. Друкаваліся пераклады дэтэктываў, фантастыкі, паэзіі, але ўсё гэта рабілася без асаблівай сістэмы — ад выпадку да выпадку. І вось, нарэшце, напрыканцы мінулага года рэдакцыяй была ўтворана Рада перакладчыкаў пры газеце «Наша слова», у якую ўвайшлі вядомыя пісьменнікі-перакладчыкі Іван Чарота, Лявон Казыра, Лявон Баршчэўскі, Міхась Кенька, Уладзімір Мархель і Алесь Траяноўскі.***

***Нядаўна ў рэдакцыі адбылося першае пасяджэнне Рады, на якое прыйшлі І. Чарота, Л. Казыра, М. Кенька, А. Траяноўскі. Друкуючы асноўны змест гутаркі перакладчыкаў, «Наша слова» гэтым пачынае знаёміць чытачоў з перакладчыцкай справай у Беларусі.***



**М. Кенька.** Секцыя перакладу Саюза пісьменнікаў Беларусі традыцыйна ў канцы года абмяркоўвае вынікі. На жаль, цяпер асабліва няма чым пахваліцца, хоць пераклады ў друку з'яўляюцца.

**І. Чарота.** Пераклады з'яўляюцца, але яны ніякай прафесійнай ацэнкі не атрымоўваюць. Нават «Скарбы сусветнай літаратуры» застаюцца незаўважанымі, хоць выйшла больш за дзесятак тамоў.

**М. Кенька.** У нашы кнігарні хлынуў вялікі паток фантастыкі, прыгод, эратычных твораў у перакладзе на рускую мову. Многія пераклады зроблены тымі, хто раней працаваў з беларускай мовай. Тут без асаблівых намаганняў заўважаеш, што праца дзеля грошай. Ні крытыкі не зважаюць на халтуру, ні калегі-перакладчыкі не даюць належнай ацэнкі.



НА ЗДЫМКУ: (злева направа) Алесь Траяноўскі, Лявон Казыра, Іван Чарота, Міхась Кенька.

Фота Ул. ПАНАДЫ.

**І. Чарота.** Але хто за такі аналіз возьмецца? Абсалютна няўдзячна. Жахлівы аб'ём працы. І дзеля чаго? Камерцыйныя выдавецтвы як выдавалі халтуру, так і будуць выдаваць.

**М. Кенька.** Цяпер робіцца і такое, што, калі кніжка на рускай мове стала папулярнай, адразу дапісваецца свой працяг і пазначаецца, што гэта пераклад з замежнай. Але наш клопат — пераклады на беларускую мову.

**Л. Казыра.** Залатых часоў для беларускага мастацкага перакладу не было і цяпер асабліва не прадбачыцца. Нават часы, калі зрэдку рэцэнзаваліся перакладныя кніжкі, мінулі гадоў сем назад. Магчыма, я перабольшваю, але калі хто апошні раз чытаў у «ЛІМе» пра пераклады?

**М. Кенька.** Цяжка ўспомніць. Праўда, зрэдку бываюць кароценькія анатацыі пра выдадзеныя кніжкі, але ж гэта не рэцэнзіі.

**Л. Казыра.** Пра пераклады цяжка пісаць, але ж і ў перакладчыка нялёгкая праца. І калі тваю працу не заўважае крытыка, а цяпер і дзяржава, то ці варта карпець над замежнымі творамі, перакладаючы іх на беларускую мову. Ці не лепш заняцца, як многія, халтурай для камерцыйных выдавецтваў, дзе і патрабаванні заніжаныя і грошы вялікія. А так за анталогію французскай навелы я атрымаў, і гэта зусім нядаўна, толькі 2600 рублёў, хоць з'яўляюся і ўкладальнікам, і аўтарам каментарыяў і прадмовы, і амаль палова тэкстаў была ў маім перакладзе.

**М. Кенька.** Такая ўжо наша доля, і таму вельмі добра, што «Наша слова» бярэцца асвятляць перакладчыцкую справу ў Беларусі, бо нельга ж на яе заплюшчваць вочы.

**І. Чарота.** У мяне ёсць шэраг канкрэтных прапаноў. Напрыклад, трэба, каб у газеце была рубрыка «Водгулле нашага слова» з інфармацыяй пра ўспрыманне беларускага слова за мяжой. Пакуль усё, што робіцца: і пераклады, і крытычныя матэрыялы, і беларусазнаўчыя даследаванні праходзяць для нас незаўважна. А так у газеце будзе набірацца пэўны банк звестак, якіх нідзе больш не знойдзеш. Другое. Вельмі добра было б, каб па аналогіі са слоўнікам беларускіх моваведаў «Наша слова» ўзялося даваць невялічкія партрэты перакладчыкаў і даследчыкаў беларускага слова ў замежжы. Кожны з нас падключыцца да такой працы.

**Л. Казыра.** Я працую ў Лінгвістычным універсітэце — гэта былы інстытут замежных моў. У нас на сённяшні дзень ёсць спецыяльны курс па мастацкаму перакладу. Заняткі ідуць на правах факультатыву. Радуе тое, што моладзь, вывучаючы французскую, італьянскую, англійскую і нямецкую мовы, спрабуе перакладаць на беларускую. Калі з гэтых, напрыклад, 50 студэнтаў, мы хоць аднаго падрыхтуем як перакладчыка на беларускую мову, то будзе вельмі добра.

**М. Кенька.** І ў БДУ з наступнага навучальнага года плануецца ўвесці курс па перакладу. І нават у ліцэі, дзе я апошні час чытаю спецкурс, ёсць зацікаўленыя перакладамі на беларускую мову.

**Л. Казыра.** Гэта добра, што ёсць маладыя творчыя сілы, але ўсё-ткі я баюся, што ў выніку далейшай камерцыялізацыі нашага грамадства можа адбыцца вялікі атток перакладчыкаў у бок халтуры.

**І. Чарота.** У сярэдзіне 80-х гадоў пад дахам Саюза пісьменнікаў Беларусі і секцыі перакладу існавала суполка перакладчыкаў «Вавілон», у якую ўваходзіла шмат таленавітых хлопцаў. Большасць з іх і тады не жадалі ўступаць у СП, тым больш цяпер. Але не гэта галоўнае — ім, бадай, наканавана ісці да камерцыйных выдаўцоў. Для перакладчыка, як і для кожнага літаратара, важна бачыць свой твор надрукаваным.

**А. Траяноўскі.** Так, цяпер перакладчыку на беларускую мову амаль няма дзе друкавацца. Здавалася б, выдавецтва «Юнацтва» павінна засяродзіцца на дзяржаўнай мове, але там захапіліся перакладамі на рускую. Даўным-даўно я падрыхтаваў і здаў у выдавецтва кніжку аднаго польскага пісьменніка. Цікавую па змесце і з даволі прыцягальнай назвай — «Выспа Рабінзона». Рукапіс узялі, але не паспяшаліся выдаваць, бо якраз у той час у Польшчы пачынала сваю дзейнасць «Салідарнасць». У выдавецтве ўзнікла пытанне: «А можа аўтар з «Салідарнасці»?» Прайшлі гады. Пісьменнік памёр. Нават камуністычныя газеты далі некралогі. Я газеты паказаў у выдавецтве, але гэта не падзейнічала. Відаць, будуць цяпер чакаць, пакуль і перакладчык памрэ. А пераклад «Выспы Рабінзона» ў выдавецтве валяецца больш за дзесяць гадоў. Можа, ужо і згубіўся.

**Л. Казыра.** Лёс многіх перакладных кніжак такі ж, як і «Выспы Рабінзона». Здавалася б, слоўнікі на сённяшні дзень вельмі патрэбныя, і чаму б іх не выдаваць апера тыўна. Ды дзе там. Да прыкладу: мы з дацэнтам кафедры замежных моў Акадэміі навук чатыры гады рабілі англа-беларускі слоўнік грамадска-палітычнай лексікі і столькі ж гадоў «прабівалі» сваю працу ў выдавецтве «Навука і тэхніка».

**І. Чарота.** Хочацца спадзявацца, што праз «Наша слова» мы зможам не толькі інфармаваць чытачоў, як ідуць перакладчыцкія справы ў Беларусі, ілюстраваць гэта сваімі творамі, а таксама даваць належную ацэнку таму, што ў нашай галіне робіцца.

**Запіс гутаркі зрабіў**
**В. ШНІП.**

# Беларускі народны каляндар

## Люты...

Апошні месяц зімы, для якога характэрны моцныя (лютыя) маразы, мяцеліца і... першыя капяжы.

1 (аўторак). **Кат.** *Ігнат* («На святога Ігната зіма багата», а Ігнат Грамніцам рад»).

2 (серада). **Кат.** *Ахвяраванне панскае.* Народная назва *Грамніцы, Стрэчанне* («Грамніца — зімы палавіца»).

**Ун.** *Сустрэча Госпада нашага Ісуса Хрыста.*

3 (чацвер). **Кат.** *Бланжэй (Блажэй, Аўлас).*

4 (пятніца). **Пр.** *Цімафей-паўзімнік* (пачатак мяцеліц).

5 (субота). **Кат.** *Агата.* У храме свенцяць хлеб і соль («Хлеб святой Агаты не пусціць бяды ў хаты»).

6 (нядзеля). **Пр.** *Аксіння-паўзімніца.* («Як на Аксінню мяце, то ўвесь корм падмяце»).

**Кат.** *Дарота* («Па Дароце высахнуць кусты на плоце»).

**Ун.** *Нядзеля блуднага сына.*

9 (серада). *Іван Залатавуст* (а не Іаан Залатавусны) — народны прысвятак. Паводле легенды Бог падарыў гэтаму святому залатыя вусы.

11 (пятніца). **Пр.** *Ігнат.*

12 (субота). **Пр.** *Тры свяціцелі* (адзначаецца дзень святых Васіля Вялікага, Рыгора Багаслова і Іаана Залатавуснага).

**Ун.** *Субота задушная, Стрэчаньскія Дзяды.*

13 (нядзеля). **Ун.** *Нядзеля мясапусная* (мясаед). *Дзень смерці святога Кірылы, настаўніка славян.*

14 (панядзелак). **Кат.** *Дзень Кірылы і Мяфодзія, апекуноў Еўропы.*

**Пр.** *Трыфан* або *Грамнічны бацька* («На Трыфана зорна — вясна позняя»).

15 (аўторак). **Пр.** *Срэценне Господняе* (ад устарэлага «сустрэча»), *Грамніцы.* Народная назва — *Стрэчанне* («А ў нас сёння Стрэчанне, Стрэчанне, зіма з летам стрэлася, стрэлася»...). Па народнай і царкоўнай традыцыях у гэты дзень паляць і асвячаюць у храмах свечкі, каб абараніцца «жывым агнём» ад усяго злога.

18 (пятніца). **Пр.** *Агата.*

19 (субота). **Пр.** *Вукола, Вакула.* Паводле народнага падання, Вакула ахоўваў людзей ад ваўкалакаў. Да язычніцкага свята быў прымеркаваны царквой дзень памяці епіскапа Вуколы.

*Усяленская бацькоўская (Тоўстая) субота* (перад мясапусным тыднем).

20 (нядзеля). **Пр.** *Загавенне (запусты, запускі) на мяса* перад *Вялікім постам.* **Ун.** *Нядзеля сырная.*

21 (панядзелак) **Кат.** *Пётр* («Калі на Пятра цёпла — зіма працягнецца да Вялікадня»).

**Ун.** *Пачатак Вялікага посту.*

23 (серада). **Кат.** *Папелец, Попельная серада.* Канец запустаў і пачатак Вялікага посту. У гэты дзень асвячаецца попел вярбы ад мінулагодняй Вербнай нядзелі і пасыпаецца на галаву ў знак Божых пакут. **Ун.** *Першая і другая знаходкі галавы Яна Хрысціцеля* (народная назва *Пайраценне* адпавядае царкоўнаславянскай назве свята *«Обретение главы Иоанна Предтечи»).*

24 (чацвер). **Пр.** *Уласій. Аўлас, (Улас, Уласце).* Дзень пакутніка Уласія Севасційскага быў прымеркаваны царквой да народнага свята, якое ўшаноўвала язычніцкага Бога Велеса. Паколькі дзень часта супадаў з Масленіцай, то і займеў прыказку: «На Аўласа бяры каўшом масла».

**Кат.** *Мацей* або *Сухі дзень.* («Калі на Мацея далонь пацее, то прадбачыцца добры, сухі год»).

26 (субота). **Пр.** *Фацінне.* Заступніца ад ліхаманак, трасцы.

*Памінальны ўсяедны тыдзень, Дзяды.* Перадапошні тыдзень мясаеда перад Вялікім постам. Асабліва адзначалася памяць продкаў у пятніцу і суботу.

27 (нядзеля). **Кат., Ун.** *Першая нядзеля Вялікага посту.* На гэты дзень прыпадае свята *Віленскай Божай Маці* (1495 г.).

**І. К.**

# Памяці Алеся АДАМОВІЧА

**Чым больш чалавек зрабіў у сваім жыцці, тым больш людзей смуткуе па яго зыходу ў іншы свет. Тым большае адчуванне, што гэты зыход дачасны. Менавіта такі выпадак цяпер. Сёння, калі мы жальбуем па Алесю Міхайлавічу Адамовічу. Пісьменнік, крытык, сцэнарыст, грамадскі дзеяч Алесь Адамовіч назаўсёды застанецца ў сэрцах усіх сяброў Менскага клуба «Спадчына». Мы яго ведаем не проста як нашага прыхільніка, земляка, творцу, а як разважлівага, смелага чалавека, аб чым не раз ён засведчваў у асабістых размовах і публічных выказваннях.**

**Увесь вольны свет ведае Алеся Адамовіча за яго гнеўны папрок камуністычнаму ўраду Беларусі — «беларускай вандэі», «беларускаму Парагваю», які вырваўся са збалелых грудзей вялікага пісьменніка і патрыёта.**

**Яшчэ раз выказваем Вам, высокапаважаная сям'я Алеся Адамовіча, сваё глыбокае, шчырае спачуванне.**

**Кнігі, артыкулы Алеся Адамовіча будуць жыць доўга. Іх не забудуць нашчадкі нашага і наступных пакаленняў.**

***Сябры клуба «СПАДЧЫНА».***

**Чытачы і рэдкалегія беларуска-амерыканскага часопіса «Полацак» сумесна з усімі беларусамі на Бацькаўшчыне і дыяспары смуткуюць з прычыны напаткаўшага краіну нацыянальнага гора — заўчаснай смерці выдатнага пісьменніка, крытыка, сцэнарыста, грамадскага дзеяча Алеся Адамовіча.**

***Галоўны рэдактар часопіса «Полацак» Святлана БЕЛАЯ.***
***Сакратар рэдкалегіі Міхась БЕЛЯМУК.***

**Сакратарыят ТБМ імя Ф. Скарыны, рэдакцыя газеты «Наша слова» выказваюць глыбокі смутак з прычыны заўчаснай смерці выдатнага дзеяча беларускай культуры, пісьменніка Алеся Адамовіча. Выказваем сям'і, родным і блізкім нябожчыка сваё глыбокае і шчырае спачуванне.**

## Афарызмы

**ПАЎЛЕ КОВАЧАВІЧ**

**Сутыкнуўся з сляпым. Я вінаваты.**

**Трэба развіваць усебаковасць у адным напрамку.**

**Учынілі труску думак. Вызвалілі тых, у якіх не знайшлі нічога.**

**Гаспадар дае волю тым рабам, якіх не можа забяспечыць работай.**

**Чым паўнейшыя турмы, тым бліжэйшая воля.**

**Хто піша сваёй крывёю, доўга не працягне.**

**Складзіце спіс ідэй, да якіх мы можам дапясціся.**

**Да зор не ідуць пехатою. Вялікія павінны часцей нагінацца.**

**Лёс еўнухам часцей за ўсё прапаноўвае гарэм.**

**Бюракратызм — млын, які, мелючы дэмакратычнае жыта, раздае людзям вотруб'е.**

**Свіння заўжды арлу дакарае, што ён вечна ў нейкіх высях.**

**У жыцці, як на балі-маскарадзе: калі ўсе здымаюць маскі, весялосць прападае.**

**З сербскахарвацкай мовы пераклаў Іван ЧАРОТА.**



Гэты помнік Францішку Скарыне адкрыты ў Лідзе. Аўтар работы — скульптар Валерый Янушкевіч.
Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ, Белінфарм.

# План работы Дома літаратара на люты 1994 года

| | | | |
|---|---|---|---|
| 4 лютага пятніца | Юбілейны вечар Бялыніцкага народнага тэатра юнага гледача. Спектакль «Дагарэла свечачка...» па п'есе Алеся Петрашкевіча ў пастаноўцы Валянціна Ермаловіча | Пачатак у 18.30 | Вялікая зала |
| 8 лютага серада | Да 80-х угодкаў нараджэння паэта Валянціна ТАЎЛАЯ | Пачатак у 18.30 | Кавярня |
| 10 лютага чацвер | Секцыя прозы | Пачатак у 15.00 | Канферэнц-зала |
| 16 лютага серада | Юбілейны вечар, прысвечаны 95-м угодкам нараджэння пісьменніка Рыгора КОБЕЦА | Пачатак у 18.30 | Вялікая зала |
| 18 лютага пятніца | Быліцы і небыліцы пра пісьменнікаў. Літаратурная вечарына Аляксея ГАРДЗІЦКАГА | Пачатак у 18.30 | Кавярня |
| 24 лютага чацвер | Прэм'ера кнігі паэзіі Міхася БАШЛАКОВА «Дні мае залатыя» | Пачатак у 18.30 | Вялікая зала |

## ШТО ПАГЛЯДЗЕЦЬ ПА ТЭЛЕВІЗАРЫ?

**2 ЛЮТАГА, СЕРАДА**

**11.15. Песню бярыце з сабою. «Залатая ліра».**
**13.40. «Загадкавы нашчадак». Мастацкі фільм.**
**18.25. Навіны Бі-бі-сі.**
**21.00. Панарама.**
**22.00. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**

**3 ЛЮТАГА, ЧАЦВЕР**

**11.45. Песню бярыце з сабою. «Залатая ліра». Частка другая.**
**13.40. «Мелодыі белай ночы». Мастацкі фільм.**
**16.25. Тэлебачанне — школе. К. Крапіва і яго драматургія.**
**17.05. Роздум пасля з'езда фермераў.**
**18.25. Навіны Бі-бі-сі.**
**20.15. Пазіцыя ўрада.**
**21.00. Панарама.**
**22.00. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**

**4 ЛЮТАГА, ПЯТНІЦА**

**11.15. «Залатая ліра». Частка трэцяя.**
**19.00. Рок-айленд-шоу.**
**21.00. Панарама.**
**22.00. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**

**5 ЛЮТАГА, СУБОТА**

**11.15. «Асуджаны на самоту». Мастацкі фільм.**
**21.00. Панарама.**
**21.50. «Кароткая гульня». Мастацкі фільм.**

**6 ЛЮТАГА, НЯДЗЕЛЯ**

**12.40. Латарэя аўтографаў. Пазнавальная праграма.**
**13.40. Кінаэкран-94. Люты.**
**16.15. Літарынка.**
**20.00. Панарама.**
**21.10. «Доктар Паполь». Мастацкі фільм.**

Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13. Тэлефон: 33-17-83

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Зак. 59.

МВПА імя Якуба Коласа, Менская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка», 220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Індэкс 63865.
Наклад 8954 паасобнікі.
Падпісана ў друк 31.1.1994 г. у 15 гадзін.